Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Мэтрапалітальны пл. 3/12.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 22 кастрычніка 1932 г. № 29 (59)

## Важны крок.

У часе гаспадараваньня на Беларускіх землях пана Юрыя Асмалоўскага, бўшага ў 1919—20 г. г. генеральным камісарам Усходніх зямель, можна было наглядаць цікаўнае зьявішча. Паны-абшарнікі, вярнуўшыся з „бежанства“ ў свае двары, прымушаны былі шукаць грошы на адбудову сваіх гаспадарак і, разумеючы, што разгаспадарыцца на вялікім абшары — вельмі трудна, пачалі частково *прадаваць зямлю сялянам.* Сяляне-ж, якія пераважна асталіся на месцы ў працягу ўсяе вайны (калі іх не сагнала расейская ўлада ў часе адступленьня) і мелі йшчэ прыхаваныя „царскія“ рублі ды нямецкія „осты“, вельмі ахвотна йшлі на куплю зямлі, цана на якую была тады нізкая.

Але гэта якраз і выклікала трывогу сярод галоўных „стаўпоў“ абшарніцтва— з тым-жа п. Асмалоўскім на чале. У зусім здаровым, нармальным эканамічным зьявішчы, якое і абшарнікам аблягчала гападарчую адбудову на меншым абшары, і сялянскі дабрабыт магло вельмі падняць, яны дагледзілі *пагрозу для абшарніцкага „стану посядання“*, пагрозу для тае пануючае ролі, якую абшарнікі — дзякуючы сваей зямельнай маемасьці — ігралі датуль у нашым краі. І пан Асмалоўскі надумаў *„ратаваць“ абшарнікаў ад зьмяншэньня іх маёнткаў:* ён, карыстаючыся дадзенай яму польскім урадам уладай, *забараніў рабіць усякія акты куплі-прадажы на зямлю.* Гэтак сялянскія „царскія“ і „осты“ асталіся ў сялянскіх скрынях і прыждалі таго мамэнту, калі вартасьць іх сталася роўнай вартасьці паперы, на якой былі надрукованы, — а панская зямля і надалей асталася ў панскіх руках.

Але гэны „ратунак“ абшарніцтва *выйшаў не на дабро, а на згубу абшарніцтву дый на вялікую шкоду дзяржаве.* Двары, каб захаваць жыцьцё іх уласьнікаў на даваенным высокім роўні і адбудаваць разбураную гаспадарку, мусілі патрэбныя на гэта грошы *пазычаць,* лезьці ў даўгі. Галоўным-жа іх крэдытарам быў *дзяржаўны скарб.* — Але хутка аказалася, што раскошна жыць і адбудоўваць гаспадарку за пазычаныя грошы — немагчыма: трэба было выбіраць ці адно, ці другое. Якое дзіва, што большасьць „земянаў“ выбірала... лягчэйшае і прыемнейшае? А вынік быў той, што — у сувязі з распачаўшымся эканамічным крызісам — дворныя гаспадаркі ня толькі не маглі выплачываць даўгоў, але й на нармальныя падаткі ўіх не хапала. Наадварот: сяляне, хоць усе іх старыя зьберажэньні змарнаваліся, усё-ж неяк і без пазыкаў давалі сабе рады і аказаліся найлепшымі, найакуратнейшымі платнікамі ўсялякіх дзяржаўных і самаўрадавых падаткаў, сума якіх з году ў год расла. І калі-б ня гэтая забарона выкупу ў паноў лішняе для іх зямлі, дык хто ведае, ці наша вёска — навет пры крызісе — дайшла-б да такое галіты, якую бачым сягоньня.

Як-бы там ні было, фатальныя і для вёскі, і для двароў, і для дзяржавы вынікі зямельнага дэкрэту пана Асмалоўскага выявіліся ўжо гэтак ярка, што аб шкоднасьці яго ня можа быць ніякае спрэчкі. Відаць, зразумелі гэта і ўрадавыя чыньнікі: як падало агенцтва „Іскра“, у выніку нарадаў зьезду прэзэсаў акруговых земскіх урадэў, адбытага ў міністэрстве земляробства і зямельных рэформ 3 і 4 кастрычніка с. г., *урад мае выдаць загад, каб пры прадажы і парцэляваньні зямлі ня толькі не рабіліся ніякія перашкоды, але, наадварот, каб даваліся ўсякія палёгкі.* Гэтым шляхам урад маніцца *ажывіць гаспадарчае жыцьцё* ў краі.

Можна толькі пашкадаваць, што гэты *разумны і неабходны* крок ураду спазьніўся на... дванаццаць гадоў! Справа ў тым, што пры цяперашнім эканамічным палажэньні вёскі *магчымасьць куплі зямлі, пакупная сіла сялянства — страшэнна малая.* На гэта могуць сабе пазволіць хіба адны толькі „амэрыканцы“, якія не пасьпелі праесьці сваіх даляраў. Аб шырокай парцэляцыйнай акцыі нельга і думаць. Хіба, што ўрад, сказаўшы „а“, скажа і „б“: *адкрые сялянству* (а не абшарнікам!) *шырокі доўгатэрміновы крэдыт на куплю зямлі,* як рабіў некалі расейскі зямельны банк. Ведама, *цяпер* гэта рэч нялёгкая. Але бяз гэтага нічога ня зробіш!

---

18 кастрычніка Рада Міністраў прыняла два праекты дэкрэтаў аб ратаваньні зямельных гаспадарак ад задоўжанасьці. Дэкрэты ўводзяць **палёгкі пры сплаце даўгоў — зямлёй, а таксама пры парцэляцыі дворных абшараў.**

---

## Спад „апекі“ абшарнікау.

Палітыка паноў абшарнікаў у Польшчы — даволі спрытная. Гэтая выміраючая, збанкрутаваўшая і маральна, і эканамічна кляса знайшла спосаб прадоўжыць сваю агонію і хоць на нейкі час адкласьці нямінучую сьмерць. Дзеля гэтага была распачата вельмі энэргічная акцыя ў тым кірунку, каб пад крыльле абшарніцкіх арганізацыяў прыгарнуць вялізарныя ў Польшчы сялянскія масы, як „рольнікаў“, і гэтак ад імя ўсяго „рольніцтва“ выступаць перад дзяржаваю з усё новымі і новымі дамаганьнямі ўсялякіх льгот і крэдытаў, львіная доля якіх гэтак ішла-бы паном абшарнікам. Так паразытная расьліна прычапляецца да здаровага, сільнага дрэва і жывіцца сокамі яго, сама нічога ня робячы.

Мамэнтам абшарніцкага трыумфу была згода так-званых „Кулэк рольнічых“ аб'яднацца ў супольнай „рольнічай“ цэнтралі з абшарніцкімі арганізацыямі. Пасьля гэтага абшарнікі высока паднялі галаву і з поўнасьцю сябе пачалі выступаць перад усімі, як прадстаўнікі і сялянскіх масаў — такіх-жа „браці рольнікув“, толькі дробных.

Ці скарысталі нешта на гэтым тыя „дробныя рольнікі“? Адказ на гэтае пытаньне — вельмі сумны для сялянства. Затое абшарнікі шмат выкарысталі сваё палажэньне. Выкарысталі так, што ажно дзяржаўная ўлада аказалася змушанай неяк бараніць „дробных рольнікаў“ ад іхніх „апякуноў“. Прагавітасьць абшарнікаў на дзяржаўныя крэдыты выявілася ў гэткай непрызвaітай форме, што дзяржаўная ўлада ўрэшце сказала ім „годзе!“

З блага ўкрыванай злосьцяй орган віленскіх абшарнікаў „Слово“ ў нумары з 30 верасьня друкуе пад загалоўкам „Яшчэ адна бюракратычная выдумка“ гэткае паведамленьне:

„У недалёкай будучыні мае паўстаць у Вільні разьдзельчы ўрад дзеля крэдытных спраў для дробнае зямельнае ўласнасьці (да 50 га); задачай яго было б урэгуляваньне падзелу крэдытаў, прызначаных для дробных рольнікаў“.

Нэрвовасьць абшарніцкае газэты—зусім зразумелая. Выдзяленьне ў асобным урадзе справы падзелу дзяржаўных крэдытаў для дробных гаспадароў пазбаўляе абшарнікаў— пры здабываньні крэдытаў для вялікшае ўласнасьці — магчымасьці падшывацца пад фірму „ўсяго рольніцтва“, якое з гэных крэдытаў мала што й вюхае. Ужо самы факт сцьвярджэньня польскім урадам неабходнасьці выдзяленьня дробнае ўласнасьці (перад усім—сялянскае) ёсьць актам абвіненьня проці буйных абшарнікаў. І з гэтага пункту гледжаньня стварэньне новага разьдзельчага ўраду (хоць тых урадаў наагул запраўды зашмат!) у гэтым выпадку трэба лічыць зьявішчам дадатнім.

Было-б вельмі пажадана, каб урэшце скончыўся „флірт“ кіруючых чыньнікаў з банкрутамі абшарнікамі: лішне ўжо дорага абходзіцца ён дзяржаўнаму скарбу Польшчы.

Г. Б.

---

## Прэса аб нашым краі.

### Безгаспадарная разбудова.

„Дзен. Познаньскі“ зварачае ўвагу на безгаспадарнасьць тэй „разбудовы крэсаў“, якая дагэтуль вялася ў нашым Краі.

Дзе-б мы ні глянулі, усюды бачым тое-ж самае. У Стоўбцах, прыгранічным месьце, пабудавана за паўмільёна бойня, у якой забіваюцца... 2 каровы ў тыдзень! Тое-ж і з „разбудовай Наваградка“. А раскошныя вагзалы, пышныя палацы для дзяржаўных ці камунальных урадоўцаў? А недарэчныя калёніі для ўрадоўцаў з каменьня ды цэглы ў мясцовасьцях, дзе няма што рабіць з лішкам лесу? Наколькі-б харашэй выглядалі дый таньней каштавалі-б драўляныя дамкі на грунце мясцовага краявіду! З аднаго боку —„эўрапэйскія дасягненьні“ ў галіне будаўніцтва, а з другога—тут-жа побач — баракі ды зямлянкі, у якіх жывуць, як „першыя людзі“, навет упрывілеяваныя асаднікі...

Далей газэта пералічае розныя асабліва характэрныя „кветкі“ гэтай „разбудовы“,

як гмах Касы Хворых у Львове, як Банк Дзярж. Гаспадаркі ў Варшаве, як вялізарны гмах Касы Хворых у Сродзе, які, нажаль, толькі... стаіць пусты, бо каса перанесена ў Гнезна..

„Добра яшчэ, — дадае да гэтага ўсяго „Кур. Віл."—што прынамся скончана будова гэтых гмахаў, бо-ж часта бывае й так, што распачатая будова раптам прыпыняецца з прычыны недахопу грошаў на неазначаны час"... (Прыклад—гмах беларускае бурсы ў Наваградку!).

Беларуская прэса неаднойчы ўжо зварачала ўвагу на гэтае сумнае і недарэчнакаштоўнае для народнай кішані зьявішча, зусім не карыснае і для так званага „прэсьціжу" (павагі) ўлады. Пашану, давер'е і прыхільнасьць з боку народу ў нашыя часы дасьпелага народнага розуму можна здабыць толькі **карыснай працай на дабро Народу**, але зусім ня тымі вялізарнымі, раскошнымі, маестатычнымі, пасутнасьці **дэкарацыйнымі** гмахамі, якія запраўды-ж як-быццам маюць зласьлівай мэтай падчыркнуць розьніцу і кантраст паміж раскошным, панскім жыцьцём урацоўцаў і ўбогасьцю жыцьця шэрых масаў мясцовага насяленьня, капаючы паміж імі тым самым яшчэ глыбейшую прорву...

Не паглыбляць трэба гэтую прорву, але выраўніваць яе!

Слушна дадае яшчэ і „Кур. Віл.", што падобная разбудова, выклікаючы толькі горкія развażаньні ў падатнікаў, адначасна дрэнна дзеець і на прадстаўнікоў замежнага капіталу ў сэньсе пазыкаў для Польшчы...

### Каб патаньнелі тавары на „крэсах".

У сувязі з адбытым нядаўна ў Вільні зьездам дзеячоў чыгункавай камунікацыі, абшарніцкі „Дзень Польскі" разважае спосабы эканамічнага ўздыму нашага Краю шляхам паляпшэньня ў нас способаў камунікацыі.

Запраўдным дабрадзействам для ўсходніх краін Польшчы была-б не будова некалькіх сотняў кілямэтраў новых чыгункавых ліній, але правядзеньне за гэтыя-ж грошы некалькіх тысяч кілямэтраў новых шосаў ды пад'ездных дарог. У большасьці выпадкаў тавары вязуцца ў глыб краю па дрэнных шляхох на падводах, якія ня могуць падняць больш за 500 кіляграмаў, што страшэнна ўдаражае правоз. Напр., дровы на станцыях у глушы Палесься і Віленшчыны каштуюць не даражэй 5—6 злотых за кубічны мэтр, але за падводу трэба плаціць блізу па залатоўцы за кілямэтр. Дзеля таго няма магчымасьці весьці разработку лесу навет у невялікай адлежнасьці ад станцыяў ці сплаўных рэк, бо-ж кошт перавозкі ў шмат разоў перавышае вартасьць лесу на месцы. Але-ж лес—галоўнае багацьце Краю. Тое-ж, зразумела, датычыць і ўсіх іншых прадуктаў і вырабаў краёвай гаспадаркі. Іх вываз на карысьнейшыя рынкі забіваюць дрэнныя шляхі цераземерна дарагой камунікацыі.

Паляпшэньне шляхоў—гэта хіба адзіны ў нас супольны пункт праграмы з абшарнікамі.

——

# Жыцьцё Польшчы.

### Таварны абмен паміж Польшчай і СССР.

У зьвязку з апошнімі гандлёвымі апэрацыямі паміж буйнейшымі фірмамі лодзкага і сьлёнскага прамысловых раёнаў і ўрадам СССР вельмі ажывіўся таварны рух на польска-радавай граніцы. Праз Стоўбцы блізу штодня праходзяць цягнікі з таварамі ў абодвух кірунках. З Польшчы ў СССР найбольш ідзе машынаў, тканінаў і дробных вырабаў металёвых. З СССР прывозяцца ў Польшчу скуры, гумовыя вырабы, рыба, ікра, футры і забаўкі.

### Тэлеграмы ў цягніках.

Паштовыя ўлады ў Польшчы наладзілі прыймо тэлеграмаў у вагонах скорых цягнікоў. Ня ўсюды заграніцай навет існуе гэткая выгада для пасажыраў.

# З усяго сьвету.

### Зачыненьне XIII сэсіі Агульнага Збору Лігі Нацыяў.

17 г. м. зачынілася XIII звычайная сэсія Агульнага Збору Лігі Нацыяў, працаваўшая каля 2 тыдняў. Найважнейшай справай, якую вырашыла сэсія, была рэформа сэкрэтарыяту Лігі. Далей Ліга займалася на гэтай сэсіі справай супрацоўніцтва прэсы ў дзеле замацаваньня сусьветнага міру і праграмай рыхтаванай у блізкім часе міжнароднай гаспадарчай канфэрэнцыі, на якую ўскладаюцца вялікія надзеі ў галіне ратаваньня сьвету ад гаспадарчага крызісу. Урэшце прыняты быў на гэтай сэсіі ў склад Лігі новы сябра—Ірак. Як бачым, працы на 2 тыдні неяк замала. Дзеля таго паседжаньні гэтага Агульнага Збору ня выклікалі вялікага заінтэрэсаваньня ані з боку прадстаўнікоў прэсы, ані навет з боку саміх сяброў Лігі. А гэта перад усім дзеля таго, што Ліга не занялася тымі палючымі справамі, якія пагражаюць сьвету новымі вялікімі ўстрасеньнямі. Гэта—справа разбраеньня,—ў зьвязку з рашучым імкненьнем Нямеччыны да адбудовы свае́й даваеннай мілітарнай сілы, а мо' і манархіі, і — справа ваеннага канфлікту Японіі з Кітаем, ад станоўчага свайго голасу ў якой Ліга яўна ўхілілася, даводзячы гэтым сваё поўнае банкруцтва.

### Нямеччына ня хоча ехаць у Жэнэву.

Як ведама, Мак-Дональд запрасіў прадстаўнікоў 4 вялікіх дзяржаваў у Лёндан, каб спакойна абгаварыць справу раўнапраўя Нямеччыны ў збраеньнях. Францыя паставіла свае варункі, Нямеччына — свае; Нямеччына адкінула рашуча францускія варункі, а Францыя—нямецкія. Такім чынам новая лёнданская канфэрэнцыя Мак Дональда праваліласяǀ. Тады Эрыё паехаў на асабістую нараду з Мак-Дональдам у Лёндан. Там яны неяк паразумеліся і запрапанавалі нямецкаму ўраду прыняць удзел у канфэрэнцыі 4 вялікіх дзяржаў, але ня ў Лёндане, а у Жэнэве. Нямецкі ўрад адказаў адмовай: ў Жэнэву, дзе мае адбыцца разбраенчая канфэрэнцыя, нямецкі ўрад згаджаецца ехаць толькі тады, калі дзяржавы згары прызнаюць Нямеччыне раўнапраўе ў справе збраеньняў. Характэрна, што сам нямецкі ўрад высоўвае думку запрасіць на канфэрэнцыю Польшчу, Чэха-Славакію і Бэльгію, але толькі — не ў Жэнэву. Ці адбудзецца гэтая няўдалая канфэрэнцыя, няведама.

### Праект зьмены канстытуцыі Нямеччыны.

Урад Папэна апублікаваў урэшце свой праект зьмены канстытуцыі. Праект прадбачыць перад усім большае ўзмацненьне ўлады прэзыдэнта Рэспублікі. Далей—цясьнейшую „пэрсональную унію" між Прусіяй і Нямеччынай: Прэзыдэнт Нямеччыны быў бы адначасна Прэзыдэнтам Прусіі. Прусія ня мела-б ужо свайго асобнага ўраду, але ўрад Нямеччыны быў бы адначасна і ўрадам Прусіі, апроч толькі двух міністраў—унутраных спраў і фінансаў, якіх Прусія мела-б асобных. Значна абмяжваюцца ў папэнавым праекце і правы Прускага Сойму. У Нямецкай Рэспубліцы мае быць створана другая заканадаўчая палата, падобная да польскага сэнату, толькі выбіралася-б яна інакш ды не цалком, бо-ж адна трэціна яе мела-б назначацца Прэзыдэнтам. Выбарнае права мелі б толькі асобы, скончыўшыя 25 гадоў. Як бачым, блізу ўсе пункты рэформы — чыста рэакцыйныя.

### Барацьба палякоў за родную асьвету ў Нямеччыне.

Польская меншасьць на Нямецкім Шлёнску зьвярнулася ў Лігу Народаў з скаргай на нямецкі ўрад, які зацягівае дагэтуль справу канцэсіі на польскую гімназію ў Бытоме, дый на іншыя балячкі ў школьным пытаньні, слушна дамагаючыся для польскіх дзяцей навукі не ў нямецкай, а ў польскай мове.

Цікаўна аднак-жа, што польскае грамадзянства, якое ў сваей дзяржаве лічыць зварот да Лігі з скаргай актам „нелёяльным" і „антыпаньствовым" з боку тэй ці іншай меншасьці ў Польшчы, само, як нацыянальная меншасьць у чужой дзяржаве, бяз хістаньня зварачаецца ў Лігу Нацыяў, калі ўсе ўнутраныя способы барацьбы за свае слушныя правы не даюць ніякіх пажаданых рэзультатаў. Чаму тут тасуюцца такія розныя меркі?

### Вайна гітлераўцаў з соцыял-дэмакратамі ў Аўстрыі.

У Аўстрыі крывавая барацьба паміж гітлераўцамі і соцыял-дэмакратамі ідзе ўсьцяж, мо' яшчэ больш зацята, як у Нямеччыне. У апошнім нападзе на работніцкі дом банда гітлераўцаў забіла з рэвальвэраў некалькі паліцыянтаў ды інспэктара паліцыі, якія баранілі дом ад нападу. Удаве забітага інспэктара паліцыі зрабіў зараз-жа візыту сам прэм'ер Дольфус.

### Крывавыя разрухі сярод безработных.

У Бэльфасьце (Ірляндыя) 12/X раптам пачаліся разрухі сярод безработных, якія пачалі рабаваць крамы ды падпаліваць урадавыя і камунальныя гмахі. У сутычцы з паліцыяй былі забіты каля 10 асоб дый некалькі дзесяткоў ранена. Але й па гэтай расправе яшчэ не аднойчы ўзнаўляліся бурныя выступленьні работнікаў у гэтым прамысловым раёне. Дый ня дзіва: газэты пішуць, што ў ім 14.000 безработных літэральна паміраюць з голаду.

### Бясспынная крывавая калатня ў Гішпаніі.

У Гішпаніі ня спыняюцца крывавыя напады і бойкі, пераважна выкліканыя камуністамі і анархістамі. Не праходзіць дня, каб ня кінена была бомба, выбух якой бярэ дзесяткі ахвяраў; адбываецца страляніна ў касьцельныя працэсіі, у вокны ўрадавых установаў і т. д. Забастоўкі работнікаў праваку́юцца з яўнай шкодай для краю дый саміх работнікаў. Але ўрад мае яшчэ давер вялізарнай большасьці народу і энэргічна тасуе рашучыя меры проці шкоднікаў новага ладу, здабытага рэвалюцыяй.

### Мусоліні касуе дыктатуру фашызму (?).

Паважная француская газэта „Тан" падае сэнсацыйную вестку з Рыму, быццам сам Мусоліні пастанавіў зьліквідаваць дыктатуру фашыстаўскае партыі ў Італіі. У зьвязку з 10-тымі ўгодкамі фашыстаўскай дыктатуры маюць быць абвешчаны розныя лібэральныя рэформы, якія ў грунце зьменяць існуючы палітычны лад у Італіі. Мае быць абвешчана амністыя для палітычных вязьняў, скасаваны вынятковыя палітычныя суды і часткова вернена свабода прэсы. Адначасна мае адбыцца перагляд статуту фашыстаўскае партыі, якая быццам будзе пазбаўлена палітычнае ролі (?)... Мусоліні быццам зразумеў ужо, што „на штыках ня можна сядзець", дый што гвалтам і тэрорам ня можна стварыць здаровае, сільнае і шчасьлівае грамадзянства, здольнае канкураваць на полі барацьбы і працы з народамі, якія самі свабодна кіруюць сваім лёсам.

### Вялікае зямлітрасеньне ў Грэцыі.

У Грэцыі, на Халкедонскім паўвостраве, здарылася ў апошнія дні нябывалай сілы зямлітрасеньне, пацягнуўшае за сабой шмат ахвяраў і стратаў. Дагэтуль налічана 150 забітых, 400 з лішкам раненых; 3.400 дамоў зруйнаваны, ў выніку чаго звыш 20.000 жыхароў апынуліся бяз даху над галавой.

# Б. С. С. Р.

### Стан асьветы ў БССР.

„Бюлетэнь 'ГБШ" падае цікаўныя лічбы адносна стану асьветы ў БССР. У бягучым годзе там існуюць:

Беларуская Акадэмія Навук (— на жаль, за кіраўніка яе Масква паставіла... польскага камуніста Домбаля!); 38 навукова-дасьледчых устаноў; 32 вышэйшыя інстытуты з лікам студэнтаў 14,421.

Сярэдніх школаў 171 з 49,000 вучняў.

Спэцыяльных школ — 237, вучыцца ў іх 51,472 вучняў.

У ніжэйшых школах (4 — 7 гадоў) вучыцца 908,625 дзяцей. Процант ахопу дзяцей ад 8 да 11 гадоў школьнай навукай узрастае ў гэткім тэмпе: у 1914 г. — 43,9 проц., у 1932 г. — 98,2 проц.

Паводле сьпісу насяленьня 1897 году ў межах БССР было толькі 30 проц. граматных (у веку ад 8 да 45 г.г.). У 1920 г. лічба граматных дасягала ўжо 50 проц., а ў 1932 г. — 95 проц.

